

„Людзьмі звацца!“
Янка Купала

# Літаратура і мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 22 чэрвеня 1990 г. № 25 (3539) ● Цана 10 кап.


## СУВЕРЭНІТЭТ ДЛЯ БЕЛАРУСІ... ЯКІ ЁН БУДЗЕ?

## У НУМАРЫ:



**АД НАШАГА ПАРЛАМЕНЦКАГА КАРЭСПАНДЭНТА**

**Наша парламенцкая практыка, здаецца, пачынае сведчыць, што перапынкі ў рабоце не дадаюць дэпутатам згоды. Вось і першае пасля паўзы ў некалькі дзён пасяджэнне сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі 19 чэрвеня адкрылася досыць бурна. З іншага боку, амаль гадзінны ўсплёск эмоцый перад тым, як рэгламент увабраўся ў сваё звыклае рэчышча — выбары старшынь пастаянных камісій, яшчэ раз пацвердзіў: на парадку дня сесіі паўстае надзвычай важнае пытанне. Можа, нават найважнейшае сёння, бо канцэнтруе літаральна ўсё, у тым ліку і пераадоленне наступстваў чарнобыльскай катастрофы.**

# «Разгледзець як першачарговае...»

МАЕЦЦА на ўвазе пытанне **аб суверэнітэце Беларусі.**

Між тым, спрэчкі на пасяджэнні разгарэліся на ўзроўні, здавалася б, зусім не канцэптуальным. Старшынствуючы М. Дзямянцей паведаміў, што Прэзідэнт СССР запрашае трох паўнамоцных прастаўнікоў вышэйшага органа ўлады Беларусі на пасяджэнне Савета Федэрацыі — для абмеркавання канцэпцыі новага Саюзнага дагавору аб нацыянальна-дзяржаўнай будове. Пераважнай большасцю галасоў дэпутаты вырашылі накіраваць у Маскву намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета БССР В. Шаладонава, начальніка аддзела НДІ ЭВМ У. Заблоцкага і пастаяннага прадстаўніка Савета Міністраў БССР пры Савеце Міністраў СССР В. Даніленку.

Але, мабыць, «машына для галасавання» была запушчана дачасна, без папярэдняга выяўлення і грунтоўнага абмеркавання ўсяго спектра думак. У прыватнасці, іншых прапаноў па персанальным складзе беларускай дэлегацыі, яе паўнамоцтвах, а таксама спроб высветліць, што ж будзе адстойваць рэспубліка ў Савеце Федэрацыі. Напрыклад, у выступленнях дэпутатаў З. Пазчяка, У. Голубева, В. Ганчара выказвалася думка аб тым, што найперш трэба выпрацаваць на сесіі ўласную канцэпцыю. Бо сёння, яшчэ не абвясціўшы суверэнітэту, лічаць дэпутаты, Беларусь не можа ўдзельнічаць у перагаворах ці кансультацыях з іншымі рэспублікамі, якія ўжо дэкларавалі суверэннасць, на роўных, а толькі ў якасці назіральніка.

Паўнамоцнасць нашых прадстаўнікоў на пасяджэнні Савета Федэрацыі давялося пацвярджаць пайменным галасаваннем. А назаўтра, 20 чэрвеня, дэпутаты амаль аднагалосна выказаліся за ўключэнне ў парадак сесіі пытання аб Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі. У прынятай пастанове адзначаецца: «Разгледзець гэта пытанне як першачарговае...» Створана камісія па падрыхтоўцы праекта Дэкларацыі ў складзе 35 дэпутатаў на чале з М. Дзямянцеем.

АТРЫМЛІВАЕЦЦА досыць цікавая сітуацыя. Вынікі галасавання 20 чэрвеня сведчаць, што неабходнасць абвяшчэння суверэнітэту Беларусі ўспрымаецца дэпутацкім корпусам як штосьці само сабой зразумелае. Абмеркаванне 19 чэрвеня — аб тым, што «дэмакраты» нібыта ўпарцяцца і зноў, маўляў, усчынаюць спрэчкі на роўным месцы.

Звернемся, так бы мовіць, да гісторыі пытання. Да нядаўняй гісторыі, звязанай з выбарчай кампаніяй і першымі днямі працы нашага парламента. Ідэі незалежнасці, рэальнага суверэнітэту Беларусі, вяршэнства законаў рэспублікі на яе тэрыторыі, поўнай гаспадарча-эканамічнай самастойнасці былі стрыжнем выбарчай платформы Беларускага народнага фронту, а таксама тых кандыдатаў, якія аб'ядналіся ў «дэмакратычны форум». Платформа КПБ таксама ўтрымлівала палажэнне аб рэальным суверэнітэце БССР «у абноўленай адзінай савецкай федэрацыі». Аднак ужо на другі дзень працы сесіі Вярхоўнага Савета прапанова паставіць на парадак дня пытанне аб суверэнітэце «падаўляючай меншасцю большасцю» была катэгарычна адхілена.

Якія ж змены адбыліся за месяц? «Ідэя авалодала масамі»? Рашэнне аб выпрацоўцы Дэкларацыі прымаецца пад апладысменты... А мне ў той момант чамусьці ўспомніўся радок з верша У. Някляева: «Усё, што коціцца, дакоціцца да нас». Бо пры ўсёй важнасці змен, напярэдадні якіх знаходзіцца і наш парламент, і ўся наша рэспубліка, мы, думаецца, не павінны забываць, з якой цяжкасцю, як парою драматычна ўкараняліся і ўкараняюцца, пашыраюцца ідэі дэмакратыі. Ці ж можна забыць ідэалагічныя баі мясцовага значэння (і хіба толькі ідэалагічныя), якія адбываліся ў нас на працягу двух мінулых гадоў? І ці спісаны ў архіў звыклы і апрыклы сцэнарый, паводле якога ўсё новае спачатку сустракалася «ў штыкі», адмаўлялася, ганьбавалася?

Так, найперш ідэі прывабліваюць, калі яны ў апазіцыі. Але з гэтага зусім не вынікае, што яны не канструктыўныя. Справа ў тым, што сістэма «не предрасположена» да ідэй. Калі ідэі падстройваюцца пад сістэму, яны не ў стане яе змяніць. Думаецца, пра гэта таксама трэба памятаць палітыкам, якія ўзяліся за ажыццяўленне рэформ. Спашлюся на словы сакратара ЦК ЛКСМБ К. Астрынскага, выказаныя ім днямі ў інтэрв'ю газеце «Знамя юности»: «У нас же в Минске говорят так: «Верная примета — то, против чего ЦК КПБ и правительство республики выступают сегодня, завтра непременно станет реальностью. Или, в крайнем случае, послезавтра». К сожалению, как ни печально, но это действительно факт».

Што ж спраўдзіцца заўтра? Кажуць, 1 чэрвеня хтосьці ўзняў над будынкам Мінсавета бел-чырвона-белы сцяг, як знялі толькі праз дваццаць хвілін...

А СЁННЯ на парадку дня — суверэнітэт. У сваёй Запісцы па гэтым пытанні Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі М. Дзямянцей лічыць, што «канцэпцыя суверэнітэту Беларускай ССР павінна грунтавацца на прынцыпах:

поўнаўладдзя народа і цэласнасці тэрыторыі рэспублікі, якая не можа быць не толькі зменена, але і выкарыстана ў той ці іншай форме без згоды яе народа;

права самастойна прымаць рашэнні, якія вызначаюць лёс народа, спосабы, напрамкі і сродкі палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця ў адпаведнасці з яго традыцыямі, патрэбамі і жаданнямі;

правамоцнасць рэспублікі самой устанаўліваць палітычны і эканамічны лад».

## *Дэпутацкі клуб «ЛіМа»*

# Магія кворуму?

**Мінская гарадская тэрытарыяльная выбарчая камісія 13 чэрвеня ў «поўным саставе» склала з сябе паўнамоцтвы. Мінчукі даведаліся пра гэта з публікацыі ў газеце «Вячэрні Мінск» (14.06.90 г.), дзе і змешчана рашэнне Мінгарвыканкома № 23. І хоць падзея гэта неардынарная (не прыпомніцца, каб нейкая з выбарчых камісій за некалькі дзён да выбараў, кажучы проста, уласнаручна падавала ў адстаўку), пра яе можна было б і не згадваць. Самаадстаўка, дык самаадстаўка. Тым больш, што Мінсавет ужо 14.06.90 г. задаволіў просьбу «членаў» гарадской выбарчай камісіі і даручыў Мінгарвыканкому «ў пяцідзённы тэрмін унесці неабходныя змены ў састаў гарадской выбарчай камісіі», а выканком у той жа дзень прыняў рашэнне «Аб змяненні ў саставе Мінскай гарадской выбарчай камісіі».**

Пільны ж чытач, пэўна, заўважыў, што, аказваецца, камісія склала з сябе паўнамоцтвы не «ў поўным саставе». У адстаўку падалі 15 яе членаў. Выходзіць, што старшыня гарвыбаркома А. Мількота, зачытваючы на сесіі Мінсавета рашэнне № 23, гаварыў пра «поўны састаў» дзеля большага эфекту. Толькі падзея гэта, трэба прызнаць, не з'яўляецца тым важным пунктам, на якім варта доўга засяроджваць увагу. Больш істотна, думаецца, было б раскрыць некаторыя акалічнасці самаадстаўкі гарадской выбарчай камісіі, а, разам з тым, разблытаць дастаткова складаны клубок, які накручваўся паступова, збіраючы ў адно многія абставіны грамадска-палітычнага жыцця як Мінска, так і рэспублікі.

Аўтар гэтых радкоў каля двух месяцаў назад выказваўся на старонках тыднёвіка «Літаратура і мастацтва» пра некаторыя непаразуменні, што ўзніклі паміж часткаю народных дэпутатаў гарсавета і гарадской выбарчай камісіяй у сувязі з неадназначнасцю прачытання кожным з бакоў асобных артыкулаў выбарчага заканадаўства рэспублікі. Недасканаласць закона давала магчымасць разумець яго так, як хацелася б большасці членаў камісіі. Пра сваю нязгоду з некаторымі рашэннямі гарвыбаркома выказваліся дэпутаты і ў ходзе сесіі Мінсавета. Асабліва ж ускладніліся ўзаемаадносіны паміж народнымі дэпутатамі, якія найперш прадстаўляюць групу «Дэмакратычная плынь», і часткай членаў камісіі ў сувязі з разглядам справы з выбарамі па 204-й сталічнай акрузе, дзе кандыдат, па заключэнні акруговай выбарчай камісіі, не быў абраны дэпутатам. Гэта рашэнне было адменена гарадской выбарчай камісіяй, якая аднесла да ліку бюлетэняў «за» і тыя, на якіх прозвішча кандыдата ў народныя дэпутаты было выкраслена. Праўда, у многіх выпадках рыса кранала толькі некаторыя яго літары і далей праходзіла па імені і імені па бацьку. Хто ж з выбаршчыкаў мог думаць, што Закон аб выбарах трэба чытаць да такой ступені літаральна: у артыкуле 47 яго сказана аб выкрэсліванні галасуючым у бюлетэні толькі «прозвішча кандыдатаў, супраць якіх ён галасуе». Часовай мандатнай камісіяй, якая правярала правільнасць правядзення выбараў, былі выяўлены і іншыя парушэнні па названым выбарчым участку. У выніку супраць прызнання паўнамоцтваў дэпутата прагаласавала 106 з прысутных на сесіі народных абраннікаў.

Кропляй жа, якая хіснула шалі 15 членаў Мінскай гарадской выбарчай камісіі на карысць складання сваіх паўнамоцтваў, сталі падзеі, што разгарнуліся вакол галадоўкі на плошчы Леніна машыніста Мінскага лакаматыўнага дэпо В. Забалоцкага. Ён дамагаўся ад Мінгарвыбаркома рэгістрацыі кандыдатам у народныя дэпутаты, бо лічыў, што атрымаў адмову незаконна. Пытанне пра рэгістрацыю В. Забалоцкага падымалася на сесіі гарадскога Савета не першы раз. Значная частка дэпутатаў была ўпэўнена, што адмова дадзена незаконна. Прэтэндэнт на кандыдацтва вытрымаў тэрміны падачы пратакола ў выбарчую камісію, якія патрабуюцца законам, усе дакументы былі ў поўным парадку. Камісія ж, як сказаў выступаючы на сесіі А. Мількота, карысталася не артыкуламі рэспубліканскага выбарчага заканадаўства, а тлумачэннем Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў БССР «Аб некаторых пытаннях работы акруговых і тэрытарыяльных выбарчых камісій па выбарах народных дэпутатаў БССР і народных дэпутатаў мясцовых Саветаў БССР». Некалькі разоў на сесіі А. Мількоту было зададзена пытанне: «Ці быў В. Забалоцкім парушаны Закон аб выбарах? Так ці не?» Адказам было або маўчанне, або — зноў жа спасылка на згаданае тлумачэнне Цэнтрвыбаркома.

Пасля абмеркавання гэтага пытання сесія Мінгарсавета падрыхтавала праект пастановы, у якім гаворыцца: «адмяніць рашэнне акруговай і гарадской выбарчых камісій аб адмаўленні ў рэгістрацыі кандыдата ў народныя дэпутаты гарсавета грамадзяніна Забалоцкага, як неадпавядаючае Закону аб выбарах; звярнуцца ў гарадскую камісію з прапановай неадкладна разгледзець пытанне аб рэгістрацыі грамадзяніна Забалоцкага кандыдатам у народныя дэпутаты гарадскога Савета; упраўленню аховы здароўя неадкладна ўстанавіць медыцынскі кантроль за станам здароўя грамадзяніна Забалоцкага». Варта сказаць, што днём раней гарадская камісія мелася разглядаць пытанне аб рэгістрацыі В. Забалоцкага, як тое было ёй рэкамендавана Цэнтральнай выбарчай камісіяй. Але на пасяджэнні гарадской камісіі... не было кворуму для прыняцця рашэння. Гэтак жа не стала кворуму і на вячэрнім пасяджэнні сесіі Мінсавета, калі трэба было прыняць цытаваны праект пастановы.

Не хочацца думаць, што нехта з народных абраннікаў ператварыў сесію ў сход дэпутатаў — так менавіта павінна яна называцца без кворуму — з-за абыякавасці да лёсу чалавека, які дамагаецца ўсяго толькі (!) выканання закона. Не хочацца таксама рабіць нейкіх высноў з далёкім прыцэлам, але не аказалася кворуму на сесіі гарадскога Савета і ў пятніцу. Частка дэпутатаў хварэе. Некаторыя абраннікі народа палічылі, што іх вытворчыя абавязкі важнейшыя за дэпутацкія, і пайшлі на працу або ўвогуле з'ехалі ў камандзіроўку. Некалькі дэпутатаў аддалі перавагу перад сесіяй Мінсавета абласной партканферэнцыі. Пра свае рашэнні яны, зразумела, не папярэдзілі астатніх паўтары сотні дэпутатаў.

Цалкам уведамляючы тупіковасць сітуацыі (новы склад гарадской выбарчай камісіі не сфарміраваны, сесія не можа прыняць рашэння з-за адсутнасці кворуму, а жыццё чалавека апынулася ў небяспецы), кіруючыся гуманнымі памкненнямі, сем дэпутатаў Мінсавета звярнуліся да В. Забалоцкага з настойлівай просьбай перапыніць галадоўку. Улічваючы многія акалічнасці дастаткова «вязкага» ходу сесіі Савета, наспела патрэба гаварыць з пэўнай заклапочанасцю пра пройдзены мінскімі дэпутатамі месячны шлях і, найбольш, пра перспектывы руху наперад. Адна справа, калі ішлі дэбаты вакол кандыдатур старшыні Савета і яго намесніка: павольна, часам адступаючы, спрабуючы розныя варыянты, рухаліся дэпутаты да свайго рашэння. Але зараз, калі нарэшце была дасягнута згода і былі абраны дзве першыя асобы Савета, і настала якраз пара фарміраваць прэзідыум, пачалі тварыцца неверагодныя рэчы. Рэгістрацыі і перарэгістрацыі адбываюцца па некалькі разоў на дзень, забіраючы каля гадзіны патрэбнага для працы часу.

Слова «кворум», падобна, некаторым дэпутатам пачынае сніцца. Хочаш ці не, але некаторыя з іх дапускаюць думку пра наўмыснае тармажэнне ходу сесіі. Зараз колькасны склад дэпутацкіх груп дазваляе выпрацоўваць кампрамісныя рашэнні, змушае весці перагаворы. Ідзе нармальная для ўсяго цывілізаванага свету, але нечуваная для нас, парламенцкая работа. Менавіта гэта, падобна, і недаспадобы некаму, хто адкрыта сказаць пра свае намеры не хоча, але ўмела ўмешваецца ў працэсы, што адбываюцца на сесіі Мінсавета.

Не буду арыгінальным, калі скажу, што даводзіцца здзіўляцца маўчанню партыйных кіраўнікоў горада, якія таксама з'яўляюцца народнымі дэпутатамі гарсавета. Падобныя думкі выказваліся дэпутатамі з трыбуны, гучалі ў інтэрв'ю радыёперадач «Мікрафон перабудовы». Імі ўжо адзначалася, што для некаторых з абраннікаў народа дысцыпліна партыйная больш важная за дэпутацкую. Нашы выбаршчыкі выказвалі давер таму ці іншаму кандыдату ў народныя дэпутаты не зважаючы на партыйнасць, веравызнанне, прыналежнасць да грамадскіх арганізацый або руху. Зараз у Савеце 65,9 пра-

Ала СЯМЁНАВА

# Ці не кідаем мы камяні ўгору?

Эклектычныя нататкі

У НАС ПРЫНЯТА ўсё ўяўляць глабальна. Маштабна. Эпахальна. Нам не да дробязяў. Ёсць звычка жыць, углядаючыся ў тое, што там, за небакраем. Што па баках, тут, побач, не заўважаем. Мроі блакітны скок. Ідэалы ператвараюцца ў ілюзіі, ілюзіі ператвараюцца ў ідэалы. Нам няма часу звяртаць увагу на драбнату. Так пільна ўглядаемся, што гэтыя гады пасля чарнобыльскай катастрофы мы і помнілі і не помнілі пра яе. Мы ёсць і, як тое ні ганебна, будзем заложнікамі Чарнобыля, — слушна зазначыў Анатоль Кудравец («Нёман», 1990, № 1). Карты, змешчаныя ў сакавіку 90-га года — нібыта ў жалобным крэпе, усё «зоны» і «зоны». Ці ж тут радыяфобія, як нас папракаюць медыкі і вучоныя з Масквы і МАГАТЭ? Ім, так мовіць, з іх чароўнага далёка лепш відаць. Гэта нявурымслівыя фізікі Я. Пятраеў і В. Несцярэнка, пісьменнік А. Адамовіч — немаведама чаго столькі часу ў званы б'юць. І атамшчык Г. Мядзведзеў нешта выдумляе. А ўсім жа вядома, 35 бэр — асвяжальная доза. І вецер 29 красавіка быў шчаслівы — дзьмуў не на Кіеў. І чаго тыя браткі-беларусы раптам уздыбіліся. Спагадлівы ж народ. Рахманы.

**...Пасля апошніх сесій Вярхоўнага Савета БССР нешта скранулася з месца. І ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (нарэшце!) абвешчана пра няшчасце Беларусі на поўны голас. І абяцаюць новае жытло не толькі тым, хто з трыццацікіламетровай зоны. І ў саюзным парламенце наша пытанне пастаўлена сярод першачарговых... 21-м! Спагадлівы народ—беларусы...**

**Мы ўскладаем спадзяванні на новы Вярхоўны Савет Беларусі. Аднак гаворку пра радыенукліды ўсё ж трэба весці па САЮЗНЫМ рахунку. Чаму прыбыткі ад прадпрыемстваў саюзнага значэння ідуць галоўным чынам у агульнадзяржаўную скарбонку? Атрута ж і радыяцыя — «прыярытэтна» нашыя, здароўем расплачваемся мы, беларусы. І нікому справы да гэтага няма.**

**А якія жудасныя словы гучалі на мітынгу 30 верасня 1989 года, наладжаным БНФ. Жанчына «з зоны» згадала: пасля вайны адна траіх дзяцей падняла, галодна было, але ўсе ведалі, што кубак малака — гэта кубак малака, яблык—яблык, шчаўе—шчаўе... А зараз, як у перакручанай дзіцячай гульні: «так» і «не» не гаварыце, чорнае з белым не бярыце...**

Малако ўжо не малако, садавіна — не садавіна. Зямля — не зямля. Горш, як у вайну. Гэта словы той жанчыны. А нашы ж цярплівыя дзядзькі і цёткі ў самую цяжкую хвіліну заўсёды гаварылі: «Абы вайны не было».

І вось палеская, магілёўская зямля, ды наогул уся рэспубліка ў радыеактыўных плямах. Цікава, як бы сёння, у нашых «зонах», трансфармаваўся б міф аб Антэі? Што атрымаў бы той асілак, дакрануўшыся да нашай зямлі? Што адбудзецца з беларускімі Антэямі і іх нашчадкамі? Чаму ў той бядзе, у якой мы не вінаваты, засталіся сам-насам са сваёй уласнай міласэрнасцю? Пад час І з'езда народных дэпутатаў СССР нейкая бойкая дэпутатачка даводзіла М. І. Рыжкову: «На Беларусі занадта хораша жывуць». Разумей — трэба адабраць, падзяліць.

У ВОГУЛЕ з гэтай бясконцай дзяльбой і экспрапрыяцыямі (адымем—падзелім) да чаго мы прыйшлі? Цывілізаваныя краіны, да якіх мы хочам дапяць, памнажаюць, дадаюць, дбаюць. А мы дагэтуль усё толькі аптымістычныя рапарты адбіваем. З нядаўняга аптымістычна-ўпэўненага выступлення намесніка міністра гандлю Беларусі даведаліся — усё звышпланавае застанецца ў рэспубліцы. А планавае — куды? Беларусь жа на гаспадарчым разліку. Але па-ранейшаму дадаём дэфіцыты, зробленыя ў нас, Саюзу, за мяжу. Рознымі шляхамі. З намі ж застаюцца нукліды.

**...Калі я прыходжу на Камароўскі рынак, дзе сёння спрэс паўднёвыя людзі з курагой па 12 рублёў за кілаграм і з лімонамі—па 1,5—3 рублі за штуку, а толькі недзе ў куточку сірочы прылавак з мясцовым мясам (таксама не танным), дык згадваю нялёгкае пасляваеннае дзесяцігоддзе. Сваю Заходнюю Беларусь. Тым часам да Мінска трэба было дабірацца суткі. З перасадкамі ў Наваельні і Баранавічах. Цэлае падарожжа. Зараз — чатыры гадзіны ў шыкоўным «Ікарусе». Цукеркі на тую пасляваенную пару былі ў нас дзівосам. Нават падушачкі. Булкі белыя ведалі толькі па святах. Аднак помніцца і іншае. У эканамістаў і даследчыкаў на гэты конт ёсць факты, лічбы, абагульненні. У мяне ж толькі ўражанні маленства.**

**...Наваградскі кірмаш. Восень. Дажынкі. Вуліцы аж грукацяць ад цяжкіх вазоў, што кіруюцца па брукаванцы. Парасяты вішчаць, нібыта іх тут, на возе, і смаляць. Нядзеля — кірмашовы дзень. Падзея. З навакольных вёсак самавіты гаспадар вязе яйкі, масла, куранят, слівы, яблыкі, вішні... Напрадвесні — цяляціну. Перад калядамі і калягнымі днямі — свежыну. І заўсёды на ўскраіне таго, пасляваеннага Наваградка, ад гары Міндоўга да колішняга, у шасцідзесятыя гады, аэрапорта — вазы, вазы, вазы... Цяляціна на старыя грошы—10 рублёў (1) рубель кілаграм, яйкі—5 рублёў (50 капеек) дзесятак. Вяндліну рабілі ўзімку многія. Самыя адмысловыя паляндвіцы былі ў дзвюх гаспадынь: Буячыхі і Півачыхі. Няма ўжо ні аднойі, ні другой, а справу звялі яшчэ раней, пасля шматлікіх пастаноў і ўказаў: тое не трымаць, гэтага не разводзіць...**

Паменшала гаспадароў. На кірмашы зараз мала хто купляе — ды і дзе тыя кірмашы... За мясам стаяць у чарзе ў краму. Кааперацыйную.

Паменела гаспадароў... А раней за зямлю і «за польскім часам» (да 39 года), і за расейскім (царскім) судзіліся, здаралася, ледзь не ўсё жыццё. Лапік зямлі... Яму ведалі цану. Ці ведаем сёння? Ці будзе каму зямлю браць, як дадуць?

Адышліся ад той працы не толькі з-за зрынутых у канцы саракавых — сярэдзіне пяцідзесятых хутароў (у тыя гады, як вядома, у Заходняй Беларусі праходзіла татальная калектывізацыя), з-за несправядлівай аплаты, з-за татальнай урбанізацыі. Але не толькі з-за гэтага.

У нас змяшчалі ў газетах партрэты перадавых даярак і льнаводак, пафасна абвяшчалі іх героямі працы. Але хто з вясковых, прыехаўшы ў горад, не чуў абразлівае: «калхознік», «дзярэўня». Тое ж і сёння, хоць мы, здаецца, кожнаму селяніну павінны біць паклоны. У мінскім гастраноме нейкае дзяўчо з «баявой расфарбоўкай» — чырвона-барвовымі вачніцамі—лямантуе: «Что вы тут сталі?» — «Ды вось з вёскі мы», — лагодна-прабачлівым голасам азываецца кабета, уся як ёсць абвешаная хатулямі. «Оно и видно», — з адчуваннем сваёй неаспрэчнай перавагі рэжа дзяўчо. І дадае — як прысуд: «Колхозница». Па ўсім відаць, продкі дзяўчыны, можа, нават яшчэ бацька і маці і сена касілі, і жыта жалі. Але ж яна — ужо «дачынілася» да гарадской культуры, у смак «сталічнай жыткі» ўвайшла. Так бы мовіць, «рэйтынг» займела.

Тандэтны той стыль не сёння з'явіўся, не заўтра знікне. Як і сталічна-правінцыйная фанабэрыя. Аднак, гледзячы ў лістападзе мінулага года па тэлебачанні відэафільм пра амерыканскіх фермераў, мне падумалася, што наўрад ці хто насмеліўся б абразіць гаспадароў з глухога амерыканскага штата. Увогуле фільм глядзеўся як казка-быль: у глыбі Злучаных Штатаў на фермах — камп'ютэры, у свінарніку — чысціня, што ў аперацыйным пакоі, гаспадыня націскае на кнопку — некалькі хвілін — і страва гатовая, націскае на другую — посуд памыты. Фантастыка. Пра катэджы, як цацачкі, пра фермераў, апранутых, як нашы моднікі, я ўжо маўчу. Але, між іншым, падумалася, гледзячы на іх ідэальныя дарогі — а прырода ж у нас нашмат прыгажэйшая...

Мы ўсё гаворым — чалавечы фактар, галоўнае — чалавек. Дзяржава працоўных. А ў сённяшнім неафіцыйным рэйтынгу ледзь не галоўная фігура — гандляр. Уладальнік дэфіцытаў. Дзелавы чалавек. Са з'яўленнем кааператываў — найважнейшая персона. Для набывання оптам. Купляем—прадаём. Калі верыць тэлебачанню і прэсе, ёсць кааператывы іншыя, цывілізаваныя. Не знаю, не знаю...

Дзіўны ўхіл адбыўся ў свядомасці людзей. На авансцэну выйшаў пасрэднік. Мяняла. Купляем — перапрадаём. Купляем — прадаём. Усё на продаж. Золата, тэлевізары, футра, лекавыя травы. Як высветлілася, і танкі, і першаякасная сыравіна для абаронцай прамысловасці — таксама. І нашы айчынныя красуні ў гарнітурах Евы здымаюцца на фоне савецкага штандара для «Плэйбоя». Выявілася — тавар канкурэнтаздольны. Нашымі строямі асабліва не здзівіш — хіба што конкурснымі асобнікамі, што часам складаюць заробак сярэдняга саўслужа ці рабочага за пяцігодку. Тут і авантаж і эпатаж. Што мы ў крамах маем, ведаем. А вось выявілася, што місаў у нас, як збаноў у добрага ганчара, на любы густ, хочаш — рэдкія, адзінкавыя экземпляры, хочаш — на ўзроўні сусветных стандартаў. Дапялі-такі да цывілізаваных народаў. А як захліпаюцца ў роспачы-спачуванні сталічныя маскоўскія журналісты — ах, ах, а-я-яй! — як мала зарабляюць нашы мадэлькі ў параўнанні з нянашымі. Ай, які гвалт! «Орёр! Орёр!» — як мовілі гогалеўскія дамы. А колькі зарабляюць там журналісты? Колькі ўрачы? Настаўнікі? Рабочыя? Бібліятэкары?

І можна сабе ўявіць, што адчуваюць нашы дзяўчаты, калі глядзяць на шыкоўныя спонсарызаваныя конкурсы «місаў» — які макіяж! якія ўборы! якія фрызуры! — калі не ў конкурсным нашым жыцці ні мыла, ні пантофляў, нават калі ты прыгожая, як Алена-краса. І ўвогуле, ці хто меў на мэце крамольную ідэю: высветліць, які быў аб'ём бёдраў у Анны Керн або ў той, да якой наш вялікі беларус Максім Багдановіч звяртаўся: «Мне доўгае расстанне з вамі чарней ад вашых чорных кос»? Чароўнасць, высокае харaство — гэта нешта большае, як талія па галівудскіх стандартах, таямніца, не падуладная вымярэнню ў сантыметрах, хаця мы разумеем і бачым, што талія ў Наталлі Мікалаеўны Ганчаровай або Марылі Верашчакі была не з горшых.

І ўвогуле, харaство натуры і таварны выгляд — розныя рэчы. Улада высокай красы — гэта не выпрошванне: ці спадабаюся журы? Сапраўднае харaство неаддзельнае ад гонару.

АЛЕ ВЕРНЕМСЯ да нашага нерамантызаванага жыцця. Не так даўно прагучала шматзначнае: «Як мы працуем, так і жывём». Яно так і не так. Так — па тых выніках, што атрымліваем. Не— па тым, колькі сіл аддаецца і аддавалася працы. Такой, што часам згадваецца даўняе, Блокава: «...работай, работай, работай. Ты будешь с уродским горбом За долгой и честной работой. За долгим и честным трудом». Сённяшні 8-гадзінны рабочы дзень — ён для большасці абарочваецца 10—11—12-гадзінным. Хто ж у наш час у вялікім горадзе жыве побач з месцам працы? Тыя, каму пашанцавала, альбо той, хто больш за ўсё мае клопат пра ўласныя выгоды. А калі ўлічыць чэргі і пошукі самых элементарных рэчаў, для жанчын яшчэ і хатнюю «змену»— колькі гадзін выйдзе? Як неяк абуралася адна кабеціна, з тых, каму часам даюць пагардлівую мянушку «жанчына з чаргі»: «Чаму застой? Хто стаяў? Усё жыццё круцілася, як верацяно». Ці — як конь на канавязі. Па кругу. Бегма. Але — высветлілася — на месцы...

Ну, а на працы? Зноў жа, як высветлілася, усе мы атрымоўвалі і атрымоўваем недзе каля 20 працэнтаў кошту нашай працы (у індустрыяльных краінах Захаду — 60—70 працэнтаў). А які кошт гэтай працы? Хто калі вызначаў у нас сапраўдных прафесіяналаў? Выдатнага педагога, таленавітага інжынера, урача боскай міласцю? Хіба што ў цырульні відаць, да каго бягуць, а да каго за рукаво цягнуць. Ёсць, то праўда, і каэфіцыенты выпрацоўкі, і кваліфікацыйныя камісіі — але якая ад іх карысць? Адны і тыя ж грошы атрымлівае маладасведчаны чалавек з ведамі «ад сіх да сіх» і сапраўдны спецыяліст, эрудыт, знаўца сваёй справы. Спецыяліст такі хіба што адзіную «прывілею» мае: яго больш за ўсіх нагружаюць, а калі пазбегнуць эўфемізмаў — эксплуатуюць. Напачатку — малады, перспектыўны, вытрымае. Потым — вопытны, іншы так не зробіць. А ўрэшце пасля пажыццёвай працоўнай катаргі — што чалавек мае? Нават ніякіх грашовых і матэрыяльных гарантый. Бо ад рэальна зробленага мала што залежыць. З аднаго боку — прывілеі. З другога — роўнасць, тая самая пашылая ўраўнілаўка, ад якой гасне талент, зацягваецца раўнадушшам сумленная акуратнасць. Каб атрымаць кватэру або пуцёўку ад прафсаюзаў, трэба прайсці размеркавальна - прыстасавальніцкую чаргу, або ўмець паплакацца. Заробак залежыць ад вышыні пасады і ад борздзенькай умеласці «жыць». Асабліва зараз. Са 100 тысяч савецкіх мільянераў у 70 працэнтаў грошы набыты несумленным шляхам. (Лічбы з «Аргументов и фактов»).

**...Мы ніколі не праміне́м падкрэсліць, якія дарагія кватэры — у ІХ, якія танныя — у нас. Але ж ЯКІЯ кватэры танныя і якія — дарагія? Дзе гэта 6 квадратных метраў на чалавека лічацца нормай? У якой цывілізаванай краіне? А чвэртку ці нават трэцюю частку заробку і ў нас плацяць — і зусім не за катэдж, за якія сорак метраў блочнай кааператыўнай кватэры, дзе за адной сцяной з ранку да вечара гучаць рытмы біг-біту, а за другой суседзі могуць кінуцца ў такую гарэзію, што жырандоля аж зойдзецца ад вечна-жалобнага звону.**

Вось у нас абвешчана: кожнай сям'і — асобную кватэру да 2000 года. Абвешчана, як гэта звычайна ў нас робіцца, без канкрэтных падлікаў. Урэшце — не беручы пад увагу, што ў нас вымушаны жыць побач музыка і шафёр таксі, настаўнік і чалавек без пэўных заняткаў, асоба, што больш за ўсё любіць цішыню, і аматар дэцыбелаў, рабочы электрастанцыі (тры змены) і дапрызыўнік ці пасляпрызыўнік, у якога тлум вавілонскі штодзень і штоночы. Размаітасць індывідуумаў? Судатыкненні, што жывяць розум і сэрца? Сацыяльная гармонія? У ідэале так, у жыцці — гармідар. Камунальнае пекла. Нават калі ў вас асобная кватэра. Ніякімі ж ахоўнымі законамі спакой грамадзян у нас, па сутнасці, не забяспечаны. З сямі раніцы да адзінаццаці вечара кватэра можа хадзіць ходырам — і ўсё нармальна, законна. І мільгане часам несучасная думка, што самым разумным было рассяленне ў сярэднявеччы: квартал шаўцоў, квартал кавалёў, квартал краўцоў... А прымроены ў сутарэннях Кастэль Нуова Горад Сонца і ягоныя геаметрызаваныя варыянты канца XX стагоддзя — арэчаўленыя ўтопіі, што добра выглядаюць у мары і на паперы, але панылаянязручныя ў жыцці.

**Кватэра — не толькі метры карыснай плошчы, гэта жытло, што ўплывае на настрой, самаадчуванне, свядомасць урэшце. А большасць з нас мае ўсё жыццё перад вачыма карабок з панылымі чатырохкутнымі выгібінамі, што завуцца высакапышна — лоджыя, ці сцянуманаліт з бясконцай чарадой вокнаў, ці фацэтныя горы тары — калі вам «пашэнціла» на краму ў першым паверсе. І ў хаце ў большасці стандарт ніяк не міжнароднага ўзроўню і звычнае ліпенне ад палучкі да палучкі. Дзе яны, дарэчы, тыя звышвысокія заробкі, з повад якіх такі лямант у нашым саюзным парламенце? Хто гэта дадаў грошы ДЗЯРЖАЎНЫМ рабочым і служачым? Калі і як будзе дзейнічаць новы закон пра маёмасць? Ці не адбудзецца тое ж, што з кааператывамі? У нас жа, як вядзецца, мадэль—адно, у жыцці — нешта зусім іншае.**

Мы ўсё кіраваліся вогненнымі лозунгамі на вогненных плахтах, а зараз высветлілася, што жыве і квітнее старая канфармісцкая праўдачка: «Трэба ўмець жыць». І гэтая праўдачка — яна кіруе ўчынкамі нават некаторых з тых, хто лічыць сябе праўдашукальнікамі, актыўнымі перабудоўцамі. Яны так хораша і таленавіта хлусяць: глядзіце, якія яны змагары, якія ў іх інсургенцкія погляды на жыццё. А відочна, як тыя дзяўкі ў «Плэйбоі», прымерваюцца: а як жа яны выглядаюць на фоне рыштаванняў перабудовы — ці эфектна?

(Працяг на стар. 12—13).

# Злабадзённа пра адвечнае

**«Прыбалтыйская тэатральная вясна-90»**

Сціплае паведамленне пра прызы і адзнакі сёлетняга фестывалю «Прыбалтыйская тэатральная вясна», думаю, дало няшмат інфармацыі чытачам. Даўно вядома: важна не столькі тое, што гаворыш, але — як гаворыш. Па сённяшнім скрутным і няпэўным часе ў тых, хто стварае, і тых, хто ацэньвае створанае, застаўся ці не адзіны «свабодны» і «сумленны» крытэрый — эмоцыя...

«Ціхае» перайменаванне «Прыбалтыйскай тэатральнай вясны» ў «Балтыйскую» ў мяне асабіста не выклікала незадаволенасці і гучных эмоцый (заві хоць гаршком): найменне нашае ў мовах суседзяў — Балтарусія, Балткрэвія...

**Эмоцыі настроеных на суперажыванне, але стрыманых рыжан магла б першапачаткова «падмануць», напрыклад, назва беларускага спектакля «Крык на хутары», аднак сутнасць самога крыку не памянялася ад перайменавання яго ў «Страсці па Аўдзею». Па шчырасці, я не прыхільнік падобнага роду тэатральных відовішчаў і гэтага спектакля ў прыватнасці. Слабая, вучнёўская, на маю думку, драматургія У. Бутрамеева —дрэнная паслуга Акадэмічнаму тэатру імя Янкі Купалы. Ды, пэўна, рэжысёр В. Раеўскі, прыступаючыся да яе, браў пад увагу не адны тэатральныя меркаванні. Бо наша шаноўная акадэмічная сцэна за сумнавядомаю часінаю дала столькі ўзораў вульгарнай, бессаромнай хлусні, пільнуючы ворагаў народа і выкрываючы шпіёнаў з прыстасаванцамі! Ці не наспеў час (назаву гэта аднаўленнем справядлівасці)... хоць бы перапрасіць за «Пагібель воўка», «Партызанаў», «Канец дружбы», «Масноўскі характар»...**

Міф пра сілы камуністычнага дабра, якія сусветнае зло ўцягвае ва ўзмоцненую класавую барацьбу, быў падтрыманы колінняю купалаўскаю сцэнаю. Аднак твор нашага сучасніка В. Раеўскага правакуе небяспеку з'яўлення новага тэатральнага міфу: маўляў, пакутнік-селянін, заможны, гаспадарлівы, без віны вінаваты перад экспрапрыятарамі (што чыстая праўда); ды бачыце, заадно — і ўвасабленне ўсяго самага найлепшага, найкаштоўнага, найразумнага ў доўгім існаванні чалавецтва ды ў непрацяглым існаванні беларускае нацыі. З гэткім «заадно» я прынцыпова нязгодная.

Яшчэ ў п'есе канфлікт нейкім таямнічым чынам падмяніла рыторыка; у спектаклі яна ж, рыторыка, зваявала і дзейных асоб і дачыненні паміж імі. Ды так, што з людзей «атрымаліся» функцыі — добрых, прыхарошана ідэалізаваных, што сімпатызуюць не да канца ідэальнаму Аўдзею, і — адмоўна-зацятых, якія гвалцяць узорнага працаўніка... за сцэнаю! Мо ў гэтым — разгадка бяздзейнасці, рытарычнасці, акасцянелай рытуальнасці спектакля? Ён складаецца з суцэльных ахвяраў — няма ніводнага, хто б не з'яўляўся такою ў межах сцэнічнае прасторы. Прычым ахвярай, вызначанай самім лёсам: калі не сацыялістычнай рэвалюцыі, дык нялюбага мужыка ці прасцяка-жаніха. Каго не пастраляюць — таго напалохаюць, каго не напалохаюць — з таго спагоняць, з каго няма як спагнаць — наздзекуюцца... За сцэнаю.

Паколькі таямнічыя сілы, кепскія начальнікі і благія людзі на сцэне не з'яўляюцца (як жа зразумець жанр спектакля—народную драму), хіба толькі з эмацыянальнае афарбоўкі рэплік іншых, харошых персанажаў можна зразумець: над Аўдзеем небяспека. Вобразна мовячы, на крыжы — тэатральным увасабленні Аўдзеевай хаты — абавязкова мусяць гаспадара распнуць. Інакш навошта крыж стаўляць? Гаспадара і распінаюць.

Трэба аддаць належнае купалаўскім акцёрам, работу якіх, і найперш Г. Аўсяннікава і С. Станюты, адзначалі крытыкі фестывалю. І ўсё-такі... Я ні на чым не настойваю, я толькі разважаю: няўжо на гэткім зацятым балбатуне, прагавітым мужыку, сацыяльным недарэку, які не бачыць нічога вакол сябе, акрамя «малацілкі», трымаецца свет? Няўжо свет беларусаў увасабляюць ягоныя боты, світкі, зрэбныя кашулі; ягоныя скаргі, лямант, нэндза і — як тэатральная навацыя—крык пра тое, што ён гаспадар, а ўсе астатнія... Хто?Хто, прабачце? Хто гаспадару не даспадобы? Гэткае філасофіі не ўтрымлівае ніводная народная драма...

Усё прыгожа і верагодна на сцэне, усё хлуслівa і фальшыва там сама. Усё можна ўзяць пад увагу, але нічому няможна даць веры. Як немагчыма зразумець, чаму Старая, маці Зуйка, хрысціцца на ікону, а Стары бацька Аўдзея, на... глядзельную залу. Ці ж да аднаго бога яны звяртаюцца? Ці ж аднаму — і якому богу спавядаюцца стваральнікі спектакля?

**Што казалі пра пастаноўку купалаўцаў крытыкі? Т. Ратабыльская, напрыклад, ухваліла пабудову рэжысёра і параўнала спектакль з іконаю, на якой можа адразу падавацца ўсё жыццё святога (спектакль пабудаваны паводле падобнага прынцыпу); Л. Берзіня далікатна расказвала пра блізкую латышам тэму спектакля, якую проста вызначае ў фінале рэпліка Чалавека з газніцаю, маўляў, ліквідуем гэтых гаспадароў як клас...**

**Што будзе пасля —агульнавядома, аднак выказаць гэта не з дапамогаю тэатра, не сродкамі тэатра, але—самім тэатрам (фармулёўка Д. Станявічутэ), чытайце — самім тыпам акцёрскай ігры, існавання ў прапанаваных абставінах, рэжысёрскім вырашэннем і асэнсаваннем гэтых абставін, на маю думку, спектаклю купалаўскага тэатра не ўдалося. Усе эмацыянальныя афарбоўкі інтанацый, усе градацыі галасоў дэманстравалі толькі, як ад нармальнай чалавечай гаворкі героі спектакля пераходзілі на крык, але ці шмат можна давесці крыкам—самым адчайным, гучным, нават гістарычна праўдзівым?**



«Страсці па Аўдзею» У. БУТРАМЕЕВА. Сцэна са спектакля.

Такім самым крыкам — працяглым, адчайным, гістарычна асэнсаваным,—выходзілі ці не ўсе героі спектакля «Псіхічная атака» паводле А. Чака (Ліепайскі драматычны тэатр): немым крыкам раўлі латышскія стралкі, стагнала Адвечная Карга (Маці — Латвія), палохаў Самотны Пан, ён жа Смерць, ён жа Чэкіст, лямантаваў Паэт.

Паэма А. Чака «Да іх дакранулася вечнасць» яшчэ не перакладалася ні на рускую, ні на беларускую мовы. Я, як глядач, шукала паразумення з перакладам у навушніках праз тэатральную мову, праз яе інтанацыі. Хацелася б зазірнуць у аўтарскую пабудову паэмы, зверыцца з аўтарскімі думкамі, але... Мушу, такім чынам, адвольна трактаваць паэму А. Чака, хоць рэжысёр Ю. Рыйніекс уключыў у сцэнічную кампазіцыю радкі з Чакавых вершаў — самакаштоўных, глыбокіх аскепкаў быцця не тагачаснай Латвіі, але заўсёднага чалавецтва ва ўсе часы. «Мы, думаем ціха, пакутуем ціха і паміраем ціха...» — гэты радок Чака і стасуецца з сэнсам ягонае паэмы, і супрацьстаіць яму.

«Некаторыя гісторыкі трымаюцца меркавання, што адстаяць незалежнасць новазаснаванай Латвійскай рэспубліцы шмат у чым дапамаглі таксама паходы і перамогі латышскіх «чырвоных» стралкоў у Расіі. ...Праз дваццаць гадоў колы, што прыйшлі з дапамогаю стралкоў да ўлады ў СССР, пазбавяць Латвійскую дзяржаву самастойнасці і амаль пагалоў знішчаць былых стралкоў» (гісторык Яніс Біне). Злучэнні стралкоў, аднак, існавалі з 1915 года і мелі на мэце свайго першапачатковага існавання, вядома, не абарону ленінскага ўрада. Пасля рэвалюцыі стралкі набылі розны «колер»...

**«Што такое стралкі для латышскага народа—гонар ці ганьба?» Такое пытанне з праграмкі спектакля мусіць цвяліць глядацкую прагу да суперажывання на працягу дзвюх з паловаю гадзін. Філасофскія пытанні, якія Паэт намагаецца хоць бы асэнсаваць, улезшы ў кашулю стралка як у ягоную скуру, памнажаюцца кожныя дзесяць хвілін. На вялікі жаль, старыя, лепей сказаць, састарэлыя сродкі тэатральнай выразнасці моцна замінаюць і Паэту, і гледачам прасачыць збольшага, як жа на пытанні адказвае паэт А. Чак. Трэба аддаць належнае «нагледжанасці» маладзёна Ю. Рыйніекса: у самым лепшым сэнсе паняцця «вучнёўства» ён шмат чаму навучыўся ад старэйшых калегаў, шмат што ўзяў ад іх, ды, па завядзёнцы маладога творцы, адмовіцца ад чаго-небудзь, яўна залішняга, у сваім спектаклі проста не ў стане. У выніку спектакль складаюць самыя розныя рэжысёрскія прыёмы, самыя вынаходлівыя і эфектныя мізансцэны з розных савецкіх спектакляў-здабыткаў... Ды што гэта я—справа ж не ў падабенстве мізансцэн! Але чаму яно так смыліць вочы, чаму міжволі вылучаецца на першы план? Мо таму, што «спрые» дасягненню самамэты—самавыявіцца, самаўдасканаліцца, самасцвердзіцца? Дый жа не за адзін раз, не ў адным спектаклі!..**

Гісторыя латышскіх стралкоў апавядаецца звышпадрабязна, перагружана інфармацыяй. Інфармацыяй, не афарбаванай тэатральнымі інтанацыямі, але багата пададзенай у тэкстах таго ці іншага героя спектакля і тут жа праілюстраванай шматлікімі партнёрамі. Самотны Пан (з выгляду — сам Люцыпар) натуральна «афармляе» і правакуе падзеі, ды два, так бы мовіць, падпанкі-д'яблы (што прымаюць воблікі генералаў, якія пасылалі стралкоў на смерць) неяк «расцягваюць» самотную Люцыпараву веліч. Дробнасць асобы міжволі здрабняе падзеі, у якіх апошняя бярэ ўдзел. Сцэны перамовінаў, змаганняў, выкрыванняў, праследаванняў і здрадаў менавіта з-за сваёй — то мітуслівасці, то застыласці, скульптурнасці, а яшчэ з-за эстраднага дыму-туману не набываюць важкае вобразнасці, на якую прэтэндуе спектакль. Што тут сказаць? Хіба толькі тое, што паэзія Чака, на маю думку, сама па сабе адметна тэатральна? Таму ні «жывыя карціны», ні прыгожыя паставы акцёраў у вынаходлівых позах, ні скульптурныя мізансцэны яшчэ большай тэатральнасці вершам не надаюць. Ім патрэбна іншае рэжысёрска-акцёрскае «атачэнне». Праўда, адна карысць ад спектакля ўсё ж мусібыць: гэта... інфармаванне залы. Сюды можна ісці як на лекцыю па гісторыі. Улічваючы паўсюдную нястачу гістарычнай праўды, з існаваннем спектакля на пэўны час можна было б і пагадзіцца.

Латышскі тэатр «Дайле» («Мастацтва»), а больш дакладна — рэжысёры К. Аўшкапс і В. Ветра звярнуліся да п'есы латышскага эмігранта Р. Стапранса «Чатыры дні ў чэрвені», якая нібыта «вокам назіральніка збоку» ўзнаўляе адну з самых трагічных старонак латышскай гісторыі — страту Латвіяй незалежнасці ў 1940 годзе. Узмацніць уражанні гледачоў спектакля мусіць месца дзеяння — сапраўдны кабінет прэзідэнта Ульманіса ў Рыжскім замку. Купкі гледачоў, якія могуць змясціцца ў межах кабінета, цалкам хапае, каб спраўдзілася і адваротнае пераўтварэнне — гістарычнага месца дзеяння ў тэатральнае. А дадайце сюды ледзь не партрэтнае падабенства акцёра У. Вaздыка на Ульманіса...

**Падобнага роду драматургія, мне здаецца, «асуджана на поспех» (хоць і вельмі непрацяглы) пры ўмове, што так званая атмасфера гістарычнай сапраўднасці (яе ўтрымліваюць аўтарскія радкі) мусіць перайсці ў атмасферу падмосткаў, прабачце, масніц... У гэтым**

# НАЙПЕРШ АД НАС САМІХ...

**Гартаючы новыя выданні**

Нарэшце, пасля доўгай важданіны на розных узроўнях, набывае права на існаванне доўгачаканы Закон аб друку. Ён не толькі для журналістаў, пісьменнікаў, але і для ўсіх іншых грамадзян, бо ў ім замацоўваецца адно з важнейшых і неад'емных правоў чалавека — права на праўдзівую інфармацыю.

Дэмакратыя, галоснасць, напрыклад, нарадзілі дзесяткі выданняў, пра якія гадоў пяць і думаць не даводзілася. Выданняў і афіцыйных, што выходзяць як органы салідных устаноў і арганізацый, і паўафіцыйных, якія маюць сваіх фундатараў, і зусім самвыдаўскіх, але якія свабодна прадаюцца, скажам, на станцыях і пераходах мінскага метро.

Сапраўднае што ні ёсць інфармацыйнае мора. Але тут жа ўзнікаюць у душы і незадавальненне, прыкрасць, горыч. Чаму ж мы, беларусы, і сёння, калі беларускай мове нададзены статус дзяржаўнай, не выкарыстоўваем гэты выдавецкі бум для яе прапаганды?

Гаворка пойдзе пра тыя бюлетэні, штотыднёвікі, штомесячнікі, якія пачалі выходзіць як дадаткі да шматтыражак, а таксама тыя, сярод выдаўцоў якіх значыцца і Саюз журналістаў БССР.

Яшчэ не так даўно тое, што амаль усе шматтыражныя газеты выходзяць у нас на рускай мове, тлумачылася самавольствам колішніх партыйна-савецкіх чыноўнікаў. Цяпер жа ўзнікае заканамернае пытанне: каго вінаваціць у тым, што і новыя выданні нараджаюцца рускамоўнымі? Чаму, скажам, спецвыпуск «Для служебного пользования» (пра гэта мне ўжо даводзілася пісаць) папоўніў спіс «русскоязычных» выданняў у рэспубліцы? Нядаўна ён, дарэчы, набыў ужо і афіцыйны статус — штомесячны інфармацыйна-прававы бюлетэнь журфонду Саюза журналістаў БССР.

Ці яшчэ адно з новых выданняў — «Колесо». Гэта інфармацыйна-рэкламны бюлетэнь (дадатак да газеты «Автозаводец») рушыў у дарогу месяца паўтара назад. Уражанне зусім неблагое. І матэрыялы цікавыя, разнастайныя, і ўменлая падача іх.

Выдаўцамі «Колеса» з'яўляюцца ўпраўленне ДАІ МУС БССР, Рэспубліканскі савет Беларускага таварыства аўтамабілістаў-аматараў, Галоўнае ўпраўленне Дзяржстраха БССР. І — той жа... журфонд Саюза журналістаў рэспублікі. Відавочна, што ў дадзеным выпадку ніякіх указанняў «зверху» аб тым, на якой мове выпускаць бюлетэнь, не было. Выбіралі самі. Выбралі тое, што зручней і прасцей, — рускую мову.

«Колесо» пакацілася шпарка, ідэя падобнага выдання знайшла паслядоўнікаў. На гэты раз у «асобе» Асацыяцыі ветэранаў друку Мінскай гарадской арганізацыі Саюза журналістаў БССР. Калі ласка, спецвыпуск «Человек. Автомобиль. Дорога». Ладны аб'ём, на штотыднёвік цягне. Мова? Таксама руская.

Шчыра кажучы, не ведаю, дзе крыецца прычына ў такой схільнасці рэспубліканскага Саюза журналістаў да рускай мовы. Магчыма, са сваёй роднай там не ў ладах? Доля іс-

такія сур'ёзныя людзі, як Уладзімір Арлоў (Масква) і Цімур Зульфікараў у дыялогу пад назвай «Почем нынче мировая скорбь» («Литературная газета», 1989, 29 лістапада) выяўляюць нейкую дзіўную накіраванасць розуму, мэтанакіраванасць інтэлекту, магчыма, і несвядома звужаючы тэму гаворкі, і, натуральна, крытэрыі культуры, крытэрыі свядомасці. Толькі і адзіна — Расія. Ніхто не аспрэчвае — вялікая культура, вялікая літаратура. Але жывём мы ўсе ж у федэрацыі. Зноў жа — мадэль. Схема. Зразумела, ва ўсякім выпадку — даравальна, — калі так успрымаюць наш кангламерат народаў за мяжой, тыя ж Ален Баскё або Дзюрэнмат, на якіх спасылаецца Скатаў, але незразумела і недаравальна, калі так звужана ўспрымаюць духоўны свет адной шостай часткі зямной кулі яе грамадзяне. «Нацыянальныя вобразы свету» выпадаюць з поля зроку, здавалася б, разумных і культурных людзей. А ўлічваць гэтыя вобразы «не толькі для сумленнага мыслення карысна, але і для глыбіні» яго. Як не пагадзіцца тут з Георгіем Гачавым — гэта словы з яго кнігі «Нацыянальныя вобразы свету».

ЧАЛАВЕЦТВА, сусветнае людства мае агульныя ідэалы, агульныя інтарэсы, моманты судакранання, але небяспечная ілюзія пра знікненне нацыянальных асаблівасцяў, бачым на свае вочы, не проста разляцелася — выбухнула безліччу жорсткіх канфліктаў. Вузкасць разумення— гэта вузкасць. Зноў жа мадэль, якую не так даўно ўяўлялі не інакш як «Саюз непарушны рэспублік свабодных», не ў сваім адстароненым, ідэальным варыянце выявіла нешта зусім не ідэальнае і далёкае ад ілюзій.

Увогуле ў нас амаль не засталося ілюзій. Але ёсць пагроза — ці не будзем мы і надалей ілюзіі прымаць за ідэалы? Так і не зразумеўшы, што ідэал — заўсёды недасягальная мара. І не трэба пазначаць канкрэтны тэрмін яе здзяйснення, яго не бывае. І не можа быць. І не павінна. «Усё вышай, і вышай, і вышай» — гэтыя асляпляльныя віражы ілюзій вялі, як мы сёння ведаем, не ў вышыні здзейсненых ідэалаў, а ў жудасныя сутарэнні ГУЛАГа. Вось і зараз — абвясцілі перабудову, галоснасць, пачалі «штрыхаваць» белыя плямы (часам, праўда, забываючыся пра тое, што, акрамя белага і чорнага, ёсць яшчэ рознакалёрны спектр), даведаліся — што адбывалася і хто, пра што і як пісаў. Глядзелі, слухалі, дзівіліся, урэшце перасталі дзівіцца, гледзячы пасяджэнні з'ездаў народных дэпутатаў СССР і Вярхоўнага Савета — колькі ў нас разумных і дасведчаных людзей і колькі абмежаваных і неадукаваных. Ідэі, ідэі, ідэі... Прапановы. Гаворка. Але ж навуковай карціны сённяшняга эканамічнага, палітычнага становішча, філасофскага асэнсавання таго, што адбываецца, няма. Як няма і пэўных, канкрэтных распрацовак — адпаведна зусім розным па ўзроўні развіцця, магчымасцях рэгіёнам.

Дык зноў жа — ці не кідаем мы камяні ўгору, замяняючы цвярозы роздум і прадуманы разлік бясконцай гаворкай? Маючы на ўвазе мадэль, схему, не звяртаючы ўвагі на дробязі. Заўсёды ставячыся з іроніяй да тэорыі «малых спраў», а зараз і ўвогуле занядбаўшы іх. Але ж няма вялікай справы без малых спраў, і, спакушаючыся чарговай ілюзіяй — ствараючы наступную мадэль, ці не скажам мы зноў — дзе багацце наша? Бо пачатак кожнай справы — роздум.

# Юрый Уладзіміравіч СЕМЯНЯКА

Беларускае музычнае мастацтва панесла цяжкую страту. 16 чэрвеня 1990 года памёр народны артыст БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, вядомы кампазітар, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, член КПСС Юрый Уладзіміравіч Семяняка.



Ю. У. Семяняка нарадзіўся 26 лістапада 1925 года ў г. Мінску. У 1957 годзе скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю імя А. В. Луначарскага.

Працоўнае жыццё пачаў у 1946 годзе выкладчыкам музычнай школы ў г. Іванава. З 1947 па 1963 год быў канцэртмайстрам Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР. Затым да 1976 года знаходзіўся на творчай рабоце. У 1976—1980 гадах выбіраўся намеснікам старшыні, старшынёй праўлення Саюза кампазітараў БССР.

Ю. У. Семяняка — адзін з вядучых кампазітараў рэспублікі. Яго творы характарызуюцца высокай ступенню мастацкага абагульнення, глыбінёй музычна - драматычных канцэпцый. Кампазітар развіваў традыцыі рэалістычнага мастацтва, творча асэнсоўваў багацейшую скарбніцу беларускага музычнага фальклору. Яго творам уласцівы меладычнае багацце, жанравая мнагапланавасць, выразнасць і дасканаласць формы.

Сярод найбольш значных твораў Ю. У. Семянякі оперы «Калючая ружа», «Калі ападае лісце», «Зорка Венера», «Новая зямля», аперэты «Рабінавыя каралі», «Тыдзень вечнага кахання», «Паўлінка», «Сцяпан — вялікі пан», гераічная музычная камедыя «Пяе «Жаваранак», кантаты «Ясныя дарогі», «Памяці Канстанціна Заслонава», «Велічальная Мінску», «У вянок Максіму Багдановічу». Вядомы яго вакальна - сімфанічныя творы, уверцюры, рамансы, музыка да драматычных спектакляў, тэле- і кінафільмаў. Найбольш актыўна працаваў кампазітар у галіне песеннага жанру. Творы Ю. У. Семянякі заваявалі папулярнасць не толькі ў нашай рэспубліцы, але і ў краіне.

Усё жыццё Ю. У. Семянякі было прысвечана служэнню музычнаму мастацтву роднай Беларусі. Нямала сіл аддаў ён развіццю самадзейнай мастацкай творчасці. Грамадская работа кампазітара была неаддзельная ад яго асобы мастака і грамадзяніна. Ю. У. Семяняка з'яўляўся сакратаром праўлення Саюза кампазітараў СССР, членам мастацкіх саветаў Міністэрства культуры БССР, Дзяржтэлерадыё БССР.

Заслугі Ю. У. Семянякі ў развіцці савецкага музычнага мастацтва адзначаны ордэнамі Леніна, «Дружбы народаў», «Знак Пашаны», медалямі і ганаровымі граматамі.

Светлая памяць пра Юрыя Уладзіміравіча Семяняку, таленавітага кампазітара, камуніста, чулага і добрага чалавека назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

Я. Я. Сакалоў, В. Г. Балуеў, В. І. Борыс, У. І. Ганчарык, М. І. Дземанцей, У. Г. Еўтух, А. С. Камай, В. Ф. Кебіч, М. В. Кавалёў, А. І. Кастэнка, М. І. Лагір, А. А. Малафееў, В. А. Пячэннікаў, А. І. Трутнеў, Ю. М. Хусаінаў, Н. М. Мазай, А. У. Русецкі, Я. К. Вайтовіч, М. І. Місуна, А. М. Герасіменка, В. В. Пірагоўскі, І. М. Лучанок, У. У. Алоўнікаў, Г. М. Вагнер, Д. Б. Смольскі, С. А. Картэс, У. В. Дарохін, В. А. Войцік, М. П. Дрынеўскі, М. А. Казінец, В. В. Зуёнак, М. М. Яроменка, В. А. Нікіфараў, Г. В. Буралкін, В. У. Роўда, Н. В. Гайда, В. В. Букань, С. А. Штэйн.

## Словы развітання

Пайшоў з жыцця народны артыст Беларусі, кампазітар, таленавіты, горды чалавек. Гэта непапраўна цяжкая страта для ўсіх нас, для ўсяго беларускага музычнага мастацтва. І калі я скажу, што мы развітваемся з адным з самых любімых сыноў беларускага народа, гэта не будзе перабольшваннем. Мабыць, гэта гучыць залішне літаратурна, але ўдумаемся: сапраўды, няма, напэўна, у нашай рэспубліцы такога кутка, дзе б не ведалі і не любілі цудоўныя мелодыі, створаныя дзівосным талентам Юрыя Уладзіміравіча Семянякі.

Ён пакінуў нам вялікую спадчыну. Ён аўтар шэрагу опер, ягоныя музычныя камедыі зрабіліся яркай старонкай беларускага музычнага тэатра. Яго песні, рамансы, іншыя вакальныя творы знаёмыя слухачам не толькі нашай рэспублікі. Ён быў не толькі таленавіты кампазітар, а яшчэ і нястомны грамадскі дзеяч. Знешне спакойны. Але пад гэтым спакоем, усе мы ведаем, білася гарачае сэрца нястомнага і непрымірымага барацьбіта за ідэалы беларускага нацыянальнага мастацтва.

Юрый Уладзіміравіч пайшоў ад нас заўчасна. Ён вельмі многа мог бы яшчэ зрабіць для беларускай музыкі. Але калі ёсць для мастака вышэйшае прызначэнне на гэтай зямлі, калі яно ў тым, каб сваім талентам зрабіцца неад'емнай часцінкай гісторыі свайго народа, дык Юрый Уладзіміравіч выканаў гэтае прызначэнне з годнасцю. І за гэта шчыры паклон яму ад усіх нас.

Уладзімір ДАРОХІН.

Дарагі наш, любімы Юрый Уладзіміравіч... Зусім немагчыма прывыкаць да думкі, што Вы ад нас адыходзіце. Сёння мысленна з Вамі развітваюцца ўсе артысты, усе работнікі Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі, нашага з Вамі тэатра, тэатра, які сваім існаваннем абавязаны менавіта Вам, Вашаму энтузіязму, Вашай перакананасці. І галоўнае — Вашай музыцы, Вашым спектаклям. Вашы спектаклі, Вашу «Паўлінку» не забудуць ніколі ні артысты, ні нашы ўдзячныя гледачы.

Вы былі надзіва добрым, надзіва светлым чалавекам і неслі гэтую дабрыню ўсім. І вельмі многія людзі сваім, я нават сказала б, дабрабытам абавязаныя Вам. Для мяне асабіста Вы — лёс, Вы — добры анёл... Я думаю, што колькі будзе існаваць гэты свет і жыць у ім людзі, яны заўсёды будуць памятаць Вас, Вашу дзівосную музыку, Вашы спектаклі. Ваша мастацтва будзе гучаць у нашых сэрцах, будзе жыць у памяці. Спіце спакойна... Бывайце...

Наталля ГАЙДА.

Усё жыццё, уся праца мая ў Беларусі літаральна з першых крокаў звязана з Юрыем Уладзіміравічам. 20 гадоў творчай, чалавечай дружбы — гэта бывае не так часта ў наш час. Я і мая сям'я страцілі самага блізкага, роднага для нас чалавека. А яшчэ для мяне Юрый Уладзіміравіч Семяняка — гэта Беларусь, бо ў ім былі засяроджаны ўсе самыя лепшыя, самыя цудоўныя рысы беларускага народа.

Уклад яго ў гісторыю беларускай культуры агромністы. Пералік створанага доўгі, гэта ўсе ведаюць. Але не магу не згадаць, што многае і многае тут звязана з паняццем «упершыню». Гэта і зварот Юрыя Уладзіміравіча да драматургіі Янкі Купалы на сцэне тэатра музычнай камедыі («Паўлінка»). Гэта і зварот да найчароўнай паэзіі Максіма Багдановіча на опернай нашай сцэне («Зорка Венера»). Гэта стварэнне Семянякам першага беларускага вадэвіля, першай нацыянальнай аперэты для дзяцей. І, канечне, ягоныя песні, сярод якіх ёсць па-сапраўднаму народныя.

Апроч усяго іншага, Юрый Уладзіміравіч валодаў нейкім асаблівым пачуццём улюбёнасці ў сваю зямлю, на якой ён нарадзіўся, на якой ваяваў. Усе клетачкі яго арганізма поўніліся любоўю да роднага краю. Нельга забыцца, як на першую нашу рэпетыцыю спектакля «Зорка Венера» мы прынеслі васількі — гэта былі яго любімыя кветкі. І Максім, герой оперы, убачыўшы гэтыя васількі ў першай карціне спектакля, усклікваў: «Якое шчасце — васількі!» І вось у гэтую горкую хвіліну ў маіх руках зноў букецік васількоў, якія шчодра красуюць сёлета. Я хачу, каб гэтыя цудоўныя, сімвалічныя для беларускай зямлі кветкі праводзілі Юрыя Уладзіміравіча ў яго апошнюю дарогу...

Сямён ШТЭЙН.

Калектыў рэдакцыі часопіса «Беларусь» смуткуе ў сувязі са смерцю члена рэдкалегіі часопіса, вядомага беларускага кампазітара Юрыя Семянякі і выказвае спачуванне сям'і, родным і блізкім нябожчыка.

Саюз пісьменнікаў БССР і Камітэт па Дзяржпрэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры глыбока смуткуюць з прычыны смерці выдатнага беларускага кампазітара, народнага артыста БССР Юрыя Уладзіміравіча Семянякі і выказваюць шчырае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

## Павага ці знявага?

Нядаўна маладзёжная суполка «Машэка» прысвяціла сваё пасяджэнне паэту-земляку Аляксею Пысіну. Запрасілі ўдаву паэта Еўдакію Сямёнаўну і мяне, даўняга знаёмца Аляксея Васільевіча. Прыгадвалі эпізоды з жыцця і творчасці таленавітага паэта, чыталі яго вершы. А потым нехта спытаўся: чаму з дома, дзе жыў паэт, знялі мемарыяльную дошку? На гэта адна з дзяўчат заўважыла, што бачыла, як сёння дошку прыладжвалі на месца.

Позна ўвечары, праводзячы Еўдакію Сямёнаўну дахаты, мы спыніліся каля дома, дзе жыў паэт. Так, дошка з барэльефам была ўжо на месцы... Але...

— Штосьці ж тут не тое напісана! — збянтэжылася Еўдакія Сямёнаўна.

А хтосьці з моладзі з горыччу заўважыў:

— Дый з памылкамі...

Неяк не па сабе і мне стала. Ізноў абы-што...

Калі ў жніўні 1981 года пайшоў з жыцця Аляксей Васільевіч, магілёўскія пісьменнікі пачалі клапатаць пра помнік на ягонай магіле, пра мемарыяльную дошку на доме, дзе ён жыў.

Разам з Еўдакіяй Сямёнаўнай напісалі мы тэкст для надмагільнай пліты, падабралі радкі з пысінскага верша. Так і было здзейснена. Прапанавалі тэкст і для мемарыяльнай дошкі, вядома, на роднай мове. Але мясцовыя чыноўнікі не прывыклі лічыцца з думкай пісьменнікаў, тэкст на дошцы адлілі па-руску, прытым з недакладнасцямі: апусцілі слова «паэт», замест «заслужаны работнік культуры» напісалі «заслужаны дзеяч культуры». Хоць мемарыяльную дошку ўрачыста адкрылі, але ўсім было зразумела, што яе варта мяняць. Урэшце дамагліся гэтага.

І вось — новая дошка, але зноў з дзіўнаватым тэкстам:

«У гэтым будынку жыў паэт, лаўрэат прэміі імя Янкі Купалы Аляксей Васільявіч Пысін».

Чаму ў будынку, а не ў доме? Будынак — гэта і хлеў, і свіран, і што хочаш. А прэмія? Трэба ж было ўказаць, што паэт лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. І куды падзеліся словы «заслужаны работнік культуры»? Ужо не кажучы пра «Васільявіч»...

Не ўмеюць у нашым Магілёве шанаваць сваю гісторыю і культуру. Усім вядома, напрыклад, што Цішка Гартны пачынаў сваё працоўнае жыццё ў гарбарні Магілёва, не раз і потым наязджаў у наш горад, напісаў тут шэраг сваіх твораў. І кончыў жыццё ў Магілёве — у «славутым» Пячэрску (псіхалячэбніца), замучаны і закатаваны тут сталіністамі як «нацдэм», «вораг народа». Не раз уздымалі мы пытанне, каб назваць адну з вуліц горада імем Цішкі Гартнага, але ўсё марна.

Або такі факт. «Прыдняпроўе, маё Прыдняпроўе!» — гэтая песня на словы Васіля Матэвушава і сёння гучыць па радыё, спяваецца самадзейнымі артыстамі. А колькі цудоўных вершаў пра нашу Магілёўшчыну пакінуў паэт нашчадкам! Абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў звярталася ў гарвыканком з хадайніцтвам прысвоіць яго імя адной з вуліц горада. Але дзе там! Намеснік старшыні гарвыканкома (цяпер ужо былы, то, бадай, не варта прыгадваць яго прозвішча) прыслаў у адказ абшырнае тлумачэнне, чым імем трэба называць вуліцы. А ў Васіля Матэвушава, маўляў, заслуг не хапіла. Сапраўды, гэта ж не А. Крывулін, не В. Прышчэпчык (былыя першыя сакратары абкома партыі), чые застойных часоў «заслугі» і сёння магілёўчане горка адчуваюць. Дарэчы, імем В. Прышчэпчыка стараннем яго паслядоўнікаў быў перайменаваны праспект Касманаўтаў. Пасля абурэння магілёўчан праспекту вярнулі былую назву, а імем Прышчэпчыка назвалі вуліцу на ціхай ускраіне горада. Аднак людзі і з гэтым не змірыліся, то нядаўна мусілі назваць тую вуліцу Каштанавай.

Няма ў Магілёве вуліц і пісьменнікаў-землякоў Юркі Лявоннага, Платона Галавача, Васіля Каваля, закатаваных у сталінскіх астрогах, Андрэя Ушакова, Уладзіміра Рагуцкага, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

Прыняты закон аб нашай роднай мове, культуры. Але туга, дужа туга ўспрымаюць яго многія магілёўскія службоўцы. Адсюль замест павагі — знявага Аляксея Пысіна, іншых дзеячаў беларускай культуры, дый усіх прыхільнікаў роднага слова.

Іван АНОШКІН.

г. Магілёў.

*Нашы публікацыі*

**М. ЗАБЭЙДА**

# «ПЕСНЯ СТАЛА МАЁЙ МОВАЙ...»

**(«Мастацтва за мір»)**

У ТОЙ ЧАС бедныя людзі радзіны не спраўлялі, дык не дзіўлюся маці, што калі мінула паўсотні год, яна, хворая, і не памятала такога «важнага» факта, як маё нараджэнне. А мне гэта, праўду кажучы, і не баліць. Цяпер, калі людзі хутка паляцяць на іншыя планеты (а можа, і нараджацца там будуць), хопіць ведаць, што я нарадзіўся на зямлі, а дзеля папер-дакументаў — у вёсцы Несцяровічы, дзе нарадзіўся і мой бацька. Магу хіба яшчэ дадаць, што мая бабуля Антаніна — маці маёй маці — яшчэ хадзіла на паншчыну, аб якой мне расказвала жахлівыя рэчы.

А цяпер зноў вернемся да вучобы. Галоўчыцкую школу я скончыў у 1914 годзе. Падрыхтаваўшыся за лета, восенню паехаў з Ванем Урбановічам у Маладзечна, каб здаваць конкурсныя экзамены ў настаўніцкую семінарыю. На станцыі ў Ваўкавыску першы раз у жыцці ўбачыў поезд з паравозам, а калі ён свіснуў, душа ў мяне ёкнула ў пяткі.

Экзамены вытрымаў.

Цягніком чацвёртага класа вярнуўся ў Ваўкавыск, а адтуль з торбаю і ботамі за плячыма, пехатою, босы ішоў 45 кіламетраў дахаты. Маці, убачыўшы мяне, абрадавалася і занепакоілася, даведаўшыся аб маім паступленні на вучобу: «Як жа ты, сынок, там будзеш адзін?» Я і сам быў засмучоны. Ваня, старэйшы і разумнейшы, праваліўся на экзамене, і мне прыходзілася «ісці ў свет» аднаму. І пайшоў. Пайшоў «у людзі».

У семінарыі дабіўся прыватнай стыпендыі — 45 рублёў у год. Пражыць на гэтыя грошы было немагчыма. Прыйшлося падрабляць урокамі «на даму» ды зацягваць папружку шчыльней. Іншыя хлопцы хадзілі ў сталоўку, дзе карміліся казённыя стыпендыяты, і даядалі там тое, што заставалася ў місах. Разы з два хадзіў і я з імі, але было надта брыдка падбіраць чужыя недаедкі — і я больш не пайшоў.



З маці (1912 г., Ружаны).

**Я шукаў іншага выйсця са свайго цяжкага становішча. Стараўся вучыцца як мага лепш, каб атрымаць казённую стыпендыю — 180 рублёў у год. Зубрыў многа, апрача вучобы, нічога не бачыў. І дабіўся свайго: на экзаменах у канцы навучальнага года атрымаў права на поўную стыпендыю. Парадаваліся мы з маці, але не надоўга: да нас наблiжаўся фронт першай сусветнай вайны. Нам сказалі эвакуіравацца. «Не надоўга» — запэўнялі. Пасля трохмесячнага блукання ля фронту нас, бежанцаў, змардаваных бадзяннем, голадам і хваробай, пасадзілі ў Мінску ў «цяплушкі», у якіх ледзь вытрывалі ад марозу, і павезлі на ўсход. Вазілі доўга, пакуль не высадзілі ў Тамбоўскай губерні каля сяла Ілавайскага.**

**Маці з братам Валодзем засталіся на месцы, а я з кошыкам за плячыма ізноў пайшоў у свет шукаць шчасця. Дабраўся аж да Пензы. І неяк даведаўся, што ў горадзе ёсць настаўніцкая семінарыя, я пайшоў туды, і мяне, як казённага стыпендыята, залічылі на вучобу. Пасля, як высветлілася, што Маладзечанская настаўніцкая семінарыя эвакуіравана і знаходзіцца ў Смаленску, мяне накіравалі вучыцца туды.**

**Памяшкання свайго семінарыя не мела, і мы займаліся ў другую змену ў гімназіі Вароніна. Жыць было вельмі цяжка. Адной стыпендыі не хапала, а грошы абясцэньваліся. Хлеба з мякінай і таго часта нельга было дастаць. Студэнты перабіваліся хто як мог.**

**У 1917 г. удзельнічаў у дэманстрацыях, разам з усімі хадзіў па вуліцах, насіў лозунгі з рэвалюцыйнымі плакатамі, крычаў «Далоў цара!»**

**У 1918 г. скончыў семінарыю і выехаў у Сібір, дзе ў эвакуацыі знаходзілася мая адзінокая маці (брат Валодзя памёр). Маці знайшоў у сяле Бароўскім Барнаульскага павета. Адразу ж падаў прашэнне ў аддзел народнай асветы, і мяне прызначылі настаўнікам у сяло Усць-Калманскае, што каля Барнаула.**

**Праца была цяжкая, але цікавая. Я арганізаваў там «Калманскае культурна-асветнае таварыства». Мяне, васемнаццацігадовага хлопца, выбралі старшынёй. Праводзілі з сялянамі гутаркі на розныя тэмы, чыталі лекцыі, ставілі п'есы. У мяне многа было запалу. Сам я і іграў і спяваў. Так я прапрацаваў адзін год.**

Але на свеце было неспакойна. Бушавала грамадзянская вайна. Яе віхуры дакаціліся да ціхага сяла Калманскага і зрушылі мяне з месца. У выніку я апынуўся ў 1920 годзе ў Харбіне.

На станцыі «Пагранічная» Кітайскай усходняй чыгункі атрымаў пасаду настаўніка. Настаўніцкі персанал быў неаднародны, дзяліўся на рэвалюцыйных і рэакцыйных. Я быў з першымі. Мы прайгралі, і я страціў пасаду. Працу знайшоў у Вэйшахэ — на маленькай станцыі той жа Кітайскай усходняй чыгункі — як настаўнік ад бацькоў. Праз два гады за добрую працу быў пераведзены ў Харбін.

Тут я сістэматычна пачаў працаваць над пастаноўкай голасу. Са мной стала займацца прафесар Юлія Канстанцінаўна Плотніцкая — былая супрацоўніца Шаляпіна — чалавек ужо пажылога ўзросту, але яшчэ добрая артыстка і педагог.

Як ужо пісаў, спяваць я любіў з дзіцячых год: пачынаў з маці, потым у школах выбіралі мяне ў салісты дзіцячага хору, спяваў у царкве і нават на вяселлях. Мог нядрэнна іграць на розных інструментах: на балалайцы, мандаліне, гітары, гармоніку і нават на скрыпцы, якая засталася ад бацькі. А на губным гармоніку я мог зайграць усё, што толькі пачуў. (Зусім Сымон-музыка!). Памятаю, у маёнтку Шайпякі, дзе працавала мая маці, быў раяль. Калі прыязджалі панскія дочкі (яны больш жылі ў Ваўкавыску) і пачыналі іграць, я гадзінамі стаяў за плотам і слухаў, забыўшыся аб усім на свеце. Добра ці дрэнна яны ігралі — не ведаю, але гэта была першая музыка, якую я пачуў на раялі. **(Цяпер, калі радыё грае больш, чым трэба, мае пачуцці таго часу можа трудна нават зразумець).** Калі паны ад'язджалі з двара і маці дазваляла мне сцерці з раялю пыл, я не мог устрымацца і пачынаў падбіраць на раялі (спачатку адным пальцам) знаёмыя мелодыі народных песень. Маці дзівілася і радавалася, але, баючыся непрыемнасцей, адганяла мяне прэч.

Шкада, што не нарадзіўся я год 50 пазней, магло б быць з мяне нешта лепшае. Як цяпер у нас вышукваюць таленты! Як ім дапамагаюць развівацца! Як іх падтрымліваюць! Я сам удзельнічаю ў камісіях па адбору здольнай музычнай моладзі. І тады свет быў не без добрых людзей, але цяпер усё робіцца арганізавана.

У настаўніцкай семінарыі спевы былі пастаўлены добра: знаёмілі з тэорыяй музыкі, быў свой хор, вучылі дырыжыраваць. Таму к Плотніцкай я трапіў, маючы некаторую падрыхтоўку ў гэтай галіне. Аднак гэтага для сур'ёзнай музыкі было мала, і я пачаў у Тамашынскай вучыцца на раялі, а з дырыжорам Меттэрам праходзіў курс гармоніі.

Праца ішла добра, і аба мне сталі гаварыць як аб вельмі надзейным маладым спеваку. Так я займаўся два гады. Але чым далей займаўся, тым менш быў задаволены сабой, тым менш у сябе верыў. Стамляла праца ў школе, асабліва моцна адбіваючыся на горле, і я не мог спяваць так, як хацеў, так, як сабе ўяўляў.

Урэшце ад кар'еры спевака адмовіўся. Гэта было зрабіць мне нялёгка, бо са спевамі я даўно моцна зросся.

Каб нешта рабіць, паступіў на эканамічнае аддзяленне юрыдычнага факультэта Харбінскага універсітэта. Заняткі там праходзілі ў другую змену. я працаваў у школе — у першую. Такім чынам я мог спалучаць адначасова работу з вучобай. Працаваў многа і вучыўся добра. Усё гэта было для розуму, а сэрца ўсё ж заставалася ў песні. Сэрца хацела спяваць.

Ад вялікае нагрузкі арганізм не вытрываў, здароўе падарвалася. Урачы знайшлі сэрца хворым і самае небяспечнае — аказаліся хворымі лёгкія. Даведаўшыся, што брат памёр ад сухотаў, дактары параілі неадкладна лячыцца. І ўсё ж вучобу ва універсітэце не пакінуў. Працаваў асцярожней, меней і сам, паціху, але ішоў наперад. Не пакінуў і спевы.

У 1929 годзе скончыў універсітэт, і мне прапанавалі асістэнтуру, а я накіраваўся ў оперу. Думалі, што звар'яцеў, не хацелі верыць.

А пачалося ўсё так.

У 1929 г. на Кітайскай усходняй чыгунцы адбыўся канфлікт паміж кітайскай і савецкай часткай праўлення. У знак салідарнасці Савецкаму Саюзу была аб'яўлена неафіцыйная забастоўка, у якой удзел прыняла і мая школа. Улады, варожа настроеныя да Савецкага Саюза, пазбавілі нас жалавання. Што было рабіць? Я звярнуўся да опернага калектыву, але там месца не знайшлося, усё было ўкамплектавана. Сезон калектыў планаваў пачаць «Русалкай» Даргамыжскага, і раптам бас Шумілін, які павінен быў спяваць мельніка, парушыў кантракт і хутка ад'ехаў у Шанхай. Такім чынам пастаноўка «Русалкі» ставілася пад пагрозу зрыву. Калектыў шукаў выйсце. З Ленінграда мелі добрага барытона Вітэльса, які мог спяваць Анегіна (Чайкоўскага). Пачалі шукаць артыста на партыю Ленскага. На пробу паклікалі мяне. Спадабаўся. Тут жа рашылі замест «Русалкі» ставіць «Яўгенія Анегіна».

За два тыдні я падрыхтаваў партыю Ленскага. Што перажыў за гэты час, трудна расказаць. Мой дэбют меў поспех, і мяне залічылі ў трупу опернага калектыву.

**Потым я спяваў Сінадала з оперы Рубінштэйна «Дэман», затым пайшлі і іншыя ролі. Да 1932 года я праспяваў 15 роляў. Гэта былі: Фауст з «Фаўста» Гуно, Альфрэд з «Травіяты» Вэрдзі, герцаг з «Рыгалета» Вэрдзі, Алмавіва з «Севільскага цырульніка» Расіні, князь з «Русалкі» Даргамыжскага, цар Берандзей з «Снягурачкі» Рымскага-Корсакава, Лыкаў з «Царскай нявесты» Рымскага-Корсакава, Уладзімір з «Князя Ігара» Барадзіна, Уладзімір з «Чарадзейкі» Чайкоўскага, Пінкертон з «Мадам Батэрфляй» Пучыні, Рудольф з «Багемы» Пучыні і іншыя.**

**Паралельна я працаваў і ў школе, куды зноў вярнуўся пасля забастоўкі.**

**Маё выступленне ў оперы мела поспех. Крытыка была добрая: я пачынаў верыць у сябе, захацелася і надалей удасканальвацца ў спевах.**

**Увесь гэты час я жыў вельмі скромна, бо збіраў грошы для паездкі ў Італію, аб якой марыць кожны добры спявак.**

**У 1932 годзе я атрымаў візу, уволіўся са школы, пакінуў тэатр і паехаў у Мілан.**

У Мілане я сустрэўся са спявачкай Анджэлікай Краўчанка, якая раней была ў Харбіне. Яна пазнаёміла мяне з выдатным майстрам спеву Фэрнандам Карпі, які раней альтэрнаваў з Карузам і іншымі славутымі спевакамі.

З Карпі я працаваў амаль кожны дзень. Маэстра дзівіўся з маёй працавітасці, хваліў мяне і паказваў іншым вучням. Цікава, што потым на лекцыі спеваў прыходзілі вучні-іншаземцы да мяне, і я сапраўды дапамагаў ім, бо ад прыроды меў добрае вуха і адразу чуў, каму чаго не хапае і чым трэба дапамагчы. Сам жа вельмі ўважліва слухаў выдатных спевакоў, якія выступалі ў Мілане, і, зразумела, многаму ад іх вучыўся. Тут я першы раз пачуў Шаляпіна. Ён спяваў Дона Базіліа ў тэатры Ла Скала. Поспех быў такі вялікі, што артыст вымушаны быў біціраваць арыю аб клевеце, хоць у гэтым тэатры бісы не дазваляліся. (У кнізе аб Шаляпіне, выдадзенай у Савецкім Саюзе, якраз ёсць здымак з гэтага выступлення (т.2, стар.464).

У Мілане я сустрэўся і са слаўным Собінавым, які прыязджаў у Італію падшукаць добрага прафесара спеваў для Масквы. Собінаў быў надзвычай прыемны і добразычлівы. Запрасіў мяне да сябе. Мы доўга гутарылі, а потым спявалі. Калі я праспяваў арыю Ленскага, ён сказаў: «Как вы припоминаете мои лучшие молодые годы!» Даў мне свой адрас і сказаў: Совершенствуйтесь и приезжайте к нам в Москву».

Усё, аднак, склалася інакш. Нездарма кажуць: «Человек — раб обстоятельств». Я так працаваў многа, што ў лёгкіх зноў пачаўся працэс. Давялося лячыцца. Паехаў у Сан-Рэмо. Паправіўшы трохі здароўе, вярнуўся ў Мілан і працягваў спяваць. Я спяваў на італьянскай мове ў операх «Травіята», «Рыгалета», «Фаўст», «Севільскі цырульнік» і інш. Мяне запрашаюць выступаць у канцэртах. Крытыка аб маіх выступленнях была вельмі станоўчая.

**(...)«Тэнар Міхаіл Забэйда пацвердзіў поспехі, якія меў нядаўна на сваім артыстычным турнэ і якія паўтарацца вечарам 31-га г. м. у Мілане. У Забэйды адразу адчуваецца пяшчотная душа славянскага мроючага паэта. Яго тонкая інтэрпрэтацыя захапляе слухачоў. Яго голас — гэта дасканалы інструмент, які здольны перадаць усе пачуцці, змешчаныя ў вершы, нават і тады, калі спявае на чужой мове... Гэта пацвердзіла публіка сваімі апладысментамі, дамагаючыся паўтарэння». 26. 10. 1934 — Сомо — піша: «Міхаіл Забэйда — тэнар надзвычайнай якасці, артыст высокай культуры, голас мяккі, гнуткі, падобны голасу свайго суайчынніка Собінава, інтэрпрэтаваў з выключнай чуллівасцю тонкія кампазіцыі, выклікаўшы захапленне ва ўсіх слухачоў».**

**І яшчэ (...) Мілан, 15. 06. 1935 г. у допісе «Поспехі тэнара М. Забэйды».**

**«У галіне канцэртнага і опернага жыцця трэба адзначыць тэнара Міхаіла Забэйду, які нядаўна выступіў з канцэртам у Міланскай кансерваторыі Вэрдзі. Забэйда і на гэты раз прадэманстраваў свае выдатныя якасці — галасавыя і інтэрпрэтацыйныя. Трудная праграма была выканана належным чынам, пахвальна (...).**

**Гэты малады артыст прыехаў у Італію ў 1932 г., да гэтага спяваў за граніцай у розных рускіх і італьянскіх операх («Севільскі цырульнік», «Рыгалета», «Фаўст» і інш.).**

**На музычным фестывалі ў Варэзе Забэйда выступіў з вялікай праграмай, спяваючы ў арыгінальнай мове творы рускіх,**

(Працяг Пачатак у № 24).

**«Вечар, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння выдатнага беларускага спевака, нястомнага прапагандыста роднай песні, першага беларуса, што спяваў на сцэне «Ла Скала», — значылася ў запрашальным білеце. Для многіх наведвальнікаў Клуба сяброў оперы, што рэгулярна сустракаюцца ў рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтваў, гэта была сенсацыя. Яны адкрылі для сябе новае імя. А галоўнае — голас, перапісаны з іншаземных пласцінак, голас дзівоснай цеплыні, прыгажосці...**

**Прыйшлі на вечар, наладжаны СТД, СП, Цэнтральным дзяржархівам-музеем літаратуры і мастацтва БССР, і тыя, хто асабіста ведаў М. Забэйду, перапісваўся з ім, хто прыкладаў намаганні, каб захаваць ягонае імя, ягонае мастацтва ў гісторыі беларускай культуры. Супрацоўнікі архіва наладзілі змястоўную выстаўку. Вядучым вечара быў У. Шаліхін, які вёў канцэрты спевака ў Мінску ў 63 годзе. Нібы старонкі дакументальнай кнігі, гучалі з магнітнай стужкі ўспаміны самога М. Забэйды. згадкі ды развагі пісьменнікаў С. Грахоўскага, А. Лойкі, С. Панізніка, дачкі Р. Шырмы Алены Рыгораўны, навукоўцаў Л. Мірачыцкага, І. Цішчанкі, Н. Батурыцкай.**

**Дарэчы, імя Н. Батурыцкай успаміналася і ў мінулым нумары «ЛіМа». Яна без малога год была на стажыроўцы ў Празе, часта наведвалася да «дзядзькі Міхася». а потым з ім перапісвалася. На вечар яна прыйшла з букетам лугавых красак — для Забэйды... А крыху раней пабывала ў рэдакцыі, расказала нямала ды прапанавала вось гэты допіс.**

ПЕРАЧЫТВАЮ гэтыя словы — з пісьма Міхала Іванавіча Забэйды-Суміцкага ад 8.12.1967 г. Тут жа ён дзеліцца радасцю: і ў гэтым годзе атрымаў ад Чэшскага музычнага фонду прэмію за сістэматычную і каштоўную інтэрпрэтацыю песень сучасных чэшскіх кампазітараў...

Разгортваю наступны ліст: «Канцэрт у Лугачовіцах 31 ліпеня адбыўся з надзвычайным

